Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

17 студзеня 1998 года
СУБОТА
№ 4(84)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Дзеці выратаваны, маёмасць згарэла

**ІВАЦЭВІЧЫ**. Праблема пакінутых без нагляду малых дзяцей, здаецца, трывала ўмацавалася ў нашым грамадстве. Малыя, застаўшыся дома адны, як звычайную бяскрыўдную цацку выкарыстоўваюць запалкі. Менавіта такое адбылося 9 студзеня ў доме жыхара в. Бабровічы В. І. Крата. Яго 5-гадовы Сярожа і 4-гадовая Света засталіся дома адны і пагуляліся з запалкамі. У доме ўспыхнуў пажар. Вяскоўцы хутка заўважылі небяспеку, выклікалі пажарных, кінуліся тушыць. Адзін з іх, Міхаіл Уладзіміравіч Горбач, даведаўшыся, што ў хаце дзеці, прабраўся ў гарэўшы будынак, знайшоў іх і вынес на вуліцу. Прыбыўшая да месца здарэння машына хуткай дапамогі адвезла дзяўчынку, атручаную чадам, у Целяханскую бальніцу. Дзяўчынка ўжо адчувае сябе добра. А вось пажар, учынены ёю, знішчыў усю маёмасць, якая знаходзілася ў пакоі: згарэла мэбля, тэлевізар, многае іншае...

### Чырвоны джып страляе

**БАРАНАВІЧЫ**. Багатыя дзічынай лясы тутэйшага заказніка "Маляроўшчына". Пагалоўе яго насельнікаў прыкметна прыбавілася: сюды перабраліся звяры, выгнаныя з родных гушчароў мінулагоднім ураганам. Аднак да салодкага жыцця ім яшчэ далёка -- амаль штодзённа жывёл адстрэльваюць браканьеры. Па ацэнцы работнікаў заказніка, ужо забіта сем дзікоў. Падчас затрымкі адзін з браканьераў стрэліў у егера, але прамахнуўся. Пракурор, праўда, не ўзбудзіў крымінальнай справы з-за "адсутнасці доказаў".

Па сведчанні мясцовых жыхароў, ва ўгоддзях Маляроўшчыны разгульвае чырвоны джып. На рахунку пакуль няўлоўнага яго ўладальніка некалькі забітых дзікоў. Егеры і супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў пакляліся затрымаць нахабнага джыпа.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ



## Апаратчык Генадзь ТУРЧЫН

*ІВАЦЭВІЧЫ. Генадзь Турчын працуе ў адкрытым акцыянерным таварыстве "Івацэвіцкі малочны завод" толькі два гады. Ён — апаратчык цэха разліву малака. Добра ведае сваю справу. Малако і кефір у пакетах, якія мы штодзённа купляем у крамах горада, зроблены апаратчыкам Генадзем Турчыным.*

*НА ЗДЫМКУ: апаратчык малаказавода Генадзь Турчын.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Вясковай школе — 135 гадоў

**БЯРОЗА**. Шаноўны ўзрост школы, што ў вёсцы Пескі. Ёй споўнілася 135 гадоў. Адлік яе дзейнасці пачаўся ў далёкім 1863-м, калі мясцовы святар адкрыў царкоўнапрыходскую школу і пачаў вучыць сялянскіх дзяцей пісьму.

Гісторыя віток за вітком мянялася, не мянялася толькі школа. У розныя гады і эпохі яна займалася сваёй справай: клапацілася, каб дзеці і іх бацькі былі пісьменнымі, каб палешукі пасябравалі з ведамі.

Са школай звязаны лёс тысячы яе выпускнікоў. Напэўна, няма такой галіны народнай гаспадаркі, дзе яны не працавалі б.

Цяпер у Песках (Новых і Старых) тры школы: пачатковая, базавая і сярэдняя. І кожная лічыць сябе пераемніцай той, першай.

## "Жыццё і смерць Міколы Русака"

*— пад такім загалоўкам "Газета для вас" (№ 47 за 6 верасня 1997 г. і № 54 за 1 кастрычніка 1997 г.) пісала пра таямнічыя абставіны смерці школьніка з вёскі Чамялы Івацэвіцкага раёна Міколы Русака.*

Нагадаем, што следства па справе гібелі хлопца вёў следчы Івацэвіцкай пракуратуры А. І. Кірыловіч. Ён прыйшоў да высновы, што школьнік загінуў у выніку алкагольнага ап'янення і адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы за адсутнасцю саставу злачынства.

Аднак бацькі з такімі высновамі следства не пагадзіліся, бо ведалі сына паслухмяным, з добрымі паводзінамі і вучобай у школе. Сумненні ў іх выклікалі і некаторыя абставіны смерці сына, якія, на іх думку, засталіся нерасследаванымі. Бацькі звярнуліся з пратэстам у Брэсцкую абласную пракуратуру. Начальнік аддзела па нагляду за следствам у органах пракуратуры вобласці М. Н. Дворак пераслаў гэтую заяву пракурору Івацэвіцкага раёна У. В. Мішкову для разгляду і прыняцця мер. Апошні даслаў бацькам пісьмовы адказ, у якім паведамляў:

"Как сообщалось ранее, по факту смерти вашего сына Русака Н. Н. проводилась проверка. Установлено, что он утонул в результате алкогольного опьянения. По данному факту в возбуждении уголовного дела отказано за отсутствием состава преступления, т. е. по ст. 5 п. 2 УПК РБ. Оснований для отмены принятого решения не имеется".

Бацькі не пагадзіліся з гэтым адказам і звярнуліся ў пракуратуру рэспублікі. І зноў атрымалі адказ з Брэсцкай абласной пракуратуры, у якім гаворыцца:

"На Ваше заявление сообщаю, что постановление следователя прокуратуры Ивацевичского района Кириловича А. И. об отказе в возбуждении уголовного дела по факту смерти Вашего сына Русака Н. Н. **отменено** и прокурору р-на дано указание проверить доводы Вашей жалобы.

О результатах проверки Вам будет сообщено прокурором Ивацевичского р-на.

Начальник отдела по надзору за следствием в органах прокуратуры, советник юстиции В. В. Кадырова".

Праверка заявы бацькоў Міколы Русака цяпер зноў вядзецца пракуратурай Івацэвіцкага раёна. Толькі адказ аб яе выніках будзе даваць новы пракурор раёна — Тамара Аляксандраўна Стасевіч. Якім будзе гэты адказ, мы чытачам паведамім.

## "Хулиганистый" маршрут "5-А"

**БАРАНОВИЧИ**. Перебрав и опробовав десятки вариантов доставки в Барановичи из деревни Новая Мышь сотни работников, работающих на предприятиях райцентра, власти и автобусники нашли единственный, хотя и дорогой — пустить по этой линии городской автобус № 5-А. Естественно, чаще стали ездить в город те, кто раньше и не помышлял об этом. Оседлали маршрут и сотни ребят из Новомышского СПТУ. Теснота, давка постоянная. Учащиеся, молодые и наглые, толкают пожилых, теснят женщин и детей, дерутся со сверстниками за места.

Организаторам этого очень удобного и дешевого для людей маршрута не осталось ничего другого сделать, как объявить о выпуске на линию дополнительную машину. Если бы еще и райотдел милиции ввел сюда одного своего парня с дубинкой, и вовсе, быть может, присмирел "хулиганистый" 5-А.

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч — лаўрэат міжнароднай прэміі "Трыумф"

***У Маскве адбылося ўручэнне міжнароднай прэміі "Трыумф" вядомай беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч. Гэтай узнагароды яна ўдастоена за выданую ў Расіі аповесць "Чарнобыльская малітва".***

Кандыдатура Святланы Алексіевіч падчас тайнага галасавання членаў журы была падтрымана амаль аднагалосна. На свята Ражаства Хрыстова аўтару аповесцяў "У вайны — не жаночы твар", "Цынкавыя хлопчыкі" і іншых таленавітых твораў уручана самая прыстыжная расійская незалежная прэмія з вызначэннем "Гонар і годнасць у літаратуры". Знак прэміі — скульптурную кампазіцыю — вырабіў Эрнст Неізвесны, А грашовую частку прэміі — 50 тысяч долараў — забяспечылі расійскія прадпрымальнікі.

## Новы год — новыя правілы

***Новыя правілы пагранічнага кантролю ўведзены ў Польшчы. Беларусам, якія едуць у гэту краіну, неабходна мець пры сабе пашпарт з адзнакай, што дазваляе выезд ва ўсе краіны, а таксама адно з трох: ваўчэр новага ўзору, новае запрашэнне ці пячатку ў пашпарце "АВ-службовая".***

Ваўчэры каштуюць даволі дорага, паколькі іх уладальнік павінен дадатковa заплаціць яшчэ як мінімум за ноч у гасцініцы і за трохразовае харчаванне. Што датычыць запрашэння новага ўзору, то ад старога яно адрозніваецца тым, што завяраць яго трэба будзе не ў натарыуса, а толькі ў канцылярыі ваяводы.

## Замежны капітал для беларускага праекта

***Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця даў дабро на выдзяленне 8,7 мільёна долараў ЗША для ажыццяўлення праекта па выпуску шклатары ў Беларусі.***

Фінансавы пакет банка для шклозавода ў Елізаве, што ў Асіповіцкім раёне, будзе складацца з крэдыту ў 7,7 мільёна і інвестыцый на адзін мільён долараў у выглядзе ўклада ў статутны фонд.

Паводле слоў дырэктара аддзялення Балтыйскія краіны — Беларусь Еўрапейскага банка Георгія Крывіцкага, інвесціраванне першага праекта прыватнага прамысловага сектара ў рэспубліцы пасадзейнічае прытоку замежнага капіталу ў Беларусь. А сам праект стане ўкладам у паскарэнне рынкавых рэформ у нашай краіне.

## Прысуджаны прэміі "За духоўнае адраджэнне"

***Указам Прэзідэнта рэспублікі прысуджаны прэміі "За духоўнае адраджэнне" 1997 года.***

Лаўрэатамі яе сталі: мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору РБ імя Г. І. Цітовіча, народны артыст Беларусі Міхаіл Паўлавіч Дрынеўскі, мастак Мікалай Пятровіч Кузьміч, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, народны артыст Беларусі Барыс Іванавіч Луцэнка, мастацкі кіраўнік хору хлопчыкаў пры Мінскім Епархіяльным упраўленні Беларускай Праваслаўнай Царквы Таісія Аляксандраўна Міронава і пісьменнік, намеснік Старшыні Дзяржаўнага Вышэйшага атэстацыйнага камітэта Расійскай Федэрацыі, член Саюза пісьменнікаў Расіі, доктар юрыдычных навук, прафесар Міхаіл Міхайлавіч Расолаў.

## "Песняры" разделятся?

***В ближайшее время музыканты ансамбля "Песняры", вероятно, разделятся на два творческих коллектива.***

Один будет состоять из молодых исполнителей во главе с народных артистом СССР Владимиром Мулявиным. Во втором коллективе будут работать заслуженные артисты Беларуси Владислав Мисевич, Валерий Дайнеко, Александр Демешко, Игорь Пеня, а также Александр Катиков, Олег Козлович и Владимир Марусич.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

● *ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК?*

# ЧАГО БАІЦЦА ЦЯРЭШКА?

### «ДРУГІМ РАЗАМ, ХЛОПЦЫ...»

Яшчэ ў мінулым годзе ў сярэдзіне лета, размаўляючы па тэлефоне са старшынёй АТ «Івацэвічы—Аграхімсервіс» В. В. Цярэшкам, я прасіў яго сустрэцца, каб пазнаёміцца з новай формай арганізацыі працы ў былой «Сельгасхіміі» і што-колечы напісаць для газеты. Але Васіль Васільевіч адмовіўся ад сустрэчы, сказаўшы, што, маўляў, яшчэ рана пісаць пра іх, а вось праз месяц можна дамовіцца.

Званю праз месяц. І зноў той жа адказ. Дзіўна дый годзе: парадак, як усё роўна пры савецкай уладзе на нейкім сакрэтным, а гэта значыць закрытым прадпрыемстве.

20 лістапада таго ж года, праязджаючы міма, разам з фотакорам заглянулі ў «Аграхімсервіс», каб зрабіць некалькі фотаздымкаў, калі ўжо пісаць няма чаго. Якраз ля канторы і сустрэлі В. В. Цярэшку, які сядаў у «Жыгулі», каб ад'ехаць.

— Прабачце, а здымаць у нас няма чаго і няма каго, — сказаў неяк раздражнёна старшыня. — Можа, другім разам, хлопцы...

Гэта ўжо сапраўды заінтрыгавала: чаго ж так баіцца кіраўнік, адмаўляючы журналістам у інфармацыі, на якую яны маюць права па існуючаму Закону? Якія прычыны гэтай боязі?

Што ж, давялося здабываць гэтую інфармацыю іншым шляхам: пабыць на прадпрыемстве ўжо ў снежні ў ролі пакупніка, сустрэцца з рабочымі і служачымі, паслухаць іх расказы.

### ШТО Я ЎБАЧЫЎ І ПАЧУЎ

Тэрыторыя былой «Сельгасхіміі» займае даволі вялікую плошчу на паўднёвым захадзе райцэнтра. Тут і кантора, і база, гаражы, паветкі, склады. Усюды стаіць тэхніка, шмат яе пад адкрытым небам. Прычэпы і паўпрычэпы — пад паветкамі.

У той снежаньскі дзень на базе, напрыклад, было ціха, нічога не згружалі і не загружалі, а на прыканторскай тэрыторыі то там, то сям завіхаліся людзі.

Адразу кінулася ў вочы, што амаль палова тэрыторыі завалена бярвеннямі, дровамі, а штыкетнік складзены ў кастры. Было такое ўражанне, што я знаходжуся не ў «Аграхімсервісе», а па крайняй меры на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве. У трох ці чатырох месцах пад паветкамі стаялі дрэваапрацоўчыя і распіловачныя станкі. А двое маладых хлопцаў пад адкрытым небам на станку абразалі штыкетнік.

— Вось залежваецца штыкетнік, мала купляюць, таму абразаем. Сказалі, што будзе дашчэчка, — падзяліліся сваімі думкамі рабочыя.

Ужо ў крытым памяшканні, праўда, без ацяплення, рабочыя складзіравалі гатовы лесаматэрыял — невялікія дошкі пэўнага памеру.

— Рыхтуем да адпраўкі ў Бельгію і Польшчу, — сказаў мне немалады ўжо мужчына.

— А як зарабляеце? — пацікавіўся я.

—Ат, хіба гэта заробкі? — адказаў той жа рабочы і махнуў рукой. Адчувалася ў яго словах незадаволенасць, хаця суму заробку не назваў.

Сказаць па праўдзе, я не пазайздросціў тым рабочым і пад паветкамі, і ў былой майстэрні. Зімой – на холадзе, вясной і летам – на скразняках. Бярвенні то мёрзлыя, то мокрыя. А іх расціпоўваць трэба.

Яшчэ цяжэй прыходзіцца рабочым, якія працуюць у лесе. У цёплую пару дасаджае камарэча і авадні, зімой – холад. Але халаднеча і слата не перашкода для сапраўдных працаўнікоў, была б добрая матэрыяльная зацікаўленасць.

Напрыклад, лесаруб з «Аграхімсервісу» мінулай восенню атрымліваў за сваю цяжкую працу менш за радавога пенсіянера. Ужо з наступленнем халадоў дабавілі трохі.

— Не хочаш – не працуй, — кажуць лесарубам начальнікі. – Знойдуцца рабочыя.

Аб тым, што ў таварыстве ёсць праблема з кадрамі, сведчаць пастаянныя аб'явы ў раённай газеце аб наборы рабочых розных спецыяльнасцяў.

Такім чынам, каб выжыць, кіраўніцтва «Аграхімсервісу» і пачало займацца падсобнай гаспадаркай, у прыватнасці лесанарыхтоўкай і распілоўкай драўніны. Ці трэба асуджаць іх за гэта? Цяжкае эканамічнае становішча прымушае кіраўнікоў усіх рангаў шукаць выйсце.

Хлебапрыёмнае прадпрыемства, напрыклад, не толькі выпекае хлеб, размолвае збожжа, але ўтрымлівае некалькі магазінаў і гандлюе. Каб выжыць, уцягнуліся ў гандаль нават некаторыя калгасы раёна.

У «Аграхімсервісе», калі ўлічыць лесапільны цэх, колькасць рабочых падвоілася. Амаль паўтары сотні чалавек працуе тут.

Як сказалі мне ў бухгалтэрыі, драўніну для распілоўкі нарыхтоўваюць самі на адведзенай дзялянцы пасля леташняга ўрагану, а таксама купляюць на аўкцыёнах.

Лесапільны цэх акцыянернага таварыства даў новыя працоўныя месцы. І прадукцыя гэтага цэха ідзе на экспарт, прадаецца за мяжу. Зарабляць валюту выгадна, можна расплаціцца за крэдыты, і ў дзяржаўны бюджэт ідзе пэўная сума.

Напрыклад, у Швейцарыі закупілі дарагакаштуючыя і эфектыўныя яды для гаспадарак раёна. Але рэалізацыя іх ідзе слаба. У калгасах няма грошай, каб своечасоа набыць хімікаты.

А для аплаты за мяжой патрэбна валюта, яе здабываюць лесапільшчыкі, прадаючы лесаматэрыялы ў Германію, Бельгію, Польшчу... Пра каштоўнасць гэтых лесаматэрыялаў, неабходнасць ашчаднага іх выкарыстання ніхто ўжо, здаецца, і не думае.

Што-колечы тут можна купіць і насельніцтву. У прыватнасці, штыкетнік, дровы, часам нават збожжа і цукар. Гэта таксама дадатковая крыніца грашовага папаўнення. Усё гэта, вядома, добра, але пры чым тут аграхімсервіс?

### СЛОВА ПРА АГРАХІМСЕРВІС

Само слова сервіс у перакладзе з англійскай мовы азначае служба, абслугоўванне насельніцтва. Калі ўзяць у нашым выпадку, то гэта аграхімабслугоўванне гаспадарак раёна. Раней толькі гэтым тут і займаліся. Займаюцца і цяпер, але, праўда, не ў такім аб'ёме, як раней, бо калгасы адмовіліся ад многіх паслуг, таму што не могуць іх аплаціць.

Варта адзначыць, што рэгулярна ідуць пастаўкі мінеральных угнаенняў, аплочаных дзяржавай. Летась іх пастаўлена для гаспадарак раёна на 39 мільярдаў рублёў.

Аплочваецца дзяржавай і пастаўка даламітавай мукі для вапнавання кіслых глеб. Гэтыя работы выконваюцца тэхнікай акцыянернага таварыства.

У былыя гады, асабліва зімой, у гаспадаркі завозілася тарфакрошка. Зараз такія работы зусім не выконваюцца з-за недахопу сродкаў. Калгасы самі, калі хто можа, нарыхтоўваюць і завозяць торф для прыгатавання кампостаў.

У час жніва, у перыяд уборкі цукровых буракоў некаторыя калгасы карыстаюцца паслугамі акцыянернага таварыства, у прыватнасці, тэхнікай для перавозкі збожжа і караняплодаў. Астатняя тэхніка занята ў асноўным на вывазцы драўніны з месцаў нарыхтоўкі.

Словам, аграхімабслугоўванне ў дзейнасці калектыву займае, на мой погляд, далёка не асноўную ролю. Яно і зразумела: гэтая сфера дзейнасці цяпер не дае патрэбнага прыбытку. А калі яго няма, то і развіццё розных відаў паслуг затарможваецца, што, вядома, адмоўна адбіваецца на эканоміцы і гаспадарак, і самога акцыянернага таварыства. Яно таму і трапіла ў двухсэнсоўнае становішча: прызначана для аграхімічнага забеспячэння гаспадарак, а вымушана займацца дзейнасцю, далёкай ад гэтага прызначэння. Таму кіраўніцтва «Аграхімсервісу», каб кадры не разбягаліся, і знайшло выйсце, каб даць сваім працаўнікам і работу, і зарплату. Праўда, па сённяшніх мерках яна яшчэ невялікая, але ж паяўляецца магчымасць яе падвышаць.

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Не сакрэт, час зараз цяжкі, эканоміка краіны ў глыбокім крызісе, і кожны выбіраецца з дна ўласнымі намаганнямі, бо сядзець і чакаць, што хтосьці дапаможа, няма сэнсу. Ніхто не прыйдзе, ніхто не дапаможа. Разлічваць трэба толькі на сябе, на свае сілы. Нават крэдыт, што часам даюць, не кожны возьме. Яго ж трэба ў тэрмін аддаваць, ды яшчэ, як кажуць, з добрым гакам. Таму ў гэтых адносінах В. В. Цярэшка паступіў дальнабачна, развіваючы тую галіну гаспадарання, якая дапаможа калектыву выжыць і цвёрда стаць на ногі. Але ж афішыраваць гэта яму зусім, як гаворыцца, не з рукі, тым больш у прэсе.

Па праўдзе кажучы, не прэсы баіцца Васіль Васільевіч, а вышэйшага начальства. Цяпер, як і ў добрыя савецкія часы, самастойнасць не надта заахвочваецца. Ведае наперад кіраўнік, што яму скажуць у райвыканкаме: аграхімсервісам больш займайся. Лёгка сказаць – займайся. А як займацца, калі ў калгаснай кішэні пуста і няма чым ім разлічвацца за паслугі «Аграхімсервісу». Гэтая боязь, відаць, і перашкаджае В. В. Цярэшку з поўнай аддачай займацца справамі працоўнага калектыву, хаця па сваёй натуры ён чалавек не баязлівы, а хутчэй за ўсё старанны і акуратны кіраўнік.

*С. КАЖАДУБ.*

● *ВАША ЗДАРОЎЕ*

## З палёў, лясоў, лугоў прыйшоў да нас «ФітаГоР»

***У арсенале лячэбных сродкаў з'явіўся новы лекавы прэпарат «ФітаГоР». Ён рэкамендуецца для прафілактыкі і лячэння анкалагічных захворванняў, радыяцыйных пашкоджанняў, пры вострых лейкозах, у якасці антыалергічнага сродка. Яго можна прымяняць для стымуляцыі ўтварэння імуннага інтэрферона. Прэпарат, які не мае ніякіх пабочных эфектаў атрымаў высокую адзнаку ў медыкаў. Адзін з вынаходнікаў новых лекаў – Уладзімір Міхайлавіч Рымша, былы старшыня калгаса-аграфірмы «Беларусь» Івацэвіцкага раёна. Ён жа арганізатар вытворчасці новага прэпарата і яго нястомны папулярызатар. З ім гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Уладзімір Міхайлавіч, калі Вы працавалі старшынёй калгаса-аграфірмы, пастараліся тады развесці лекавыя травы...**

— Так. Вырошчванне зёлак было пастаўлена на шырокую ногу. Рамонак, шалфей, святаяннік, зуброўка, чабрэц... Людзі здаўна ведалі карысць гэтых траў, ведалі сакрэты прымянення. У гады майго старшынёўства акурат звярнулася да мяне кандыдат біялагічных навук Яўгенія Галынская, якая знайшла «формулу» сямітраўніка і прапанавала мне супрацоўніцтва. Я рызыкнуў. Ідэя мне здалася ўдзячнай: чаму ж не паспрабаваць яе ажыццявіць?

**— У чым заключаецца каштоўнасць збору сямі лекавых раслін?**

— Каштоўнасць сямі лекавых раслін, што ўваходзяць у збор «ФітаГоРу», у тым, што ўсе яны з багатым утрыманнем лекціну. Таго самага лекціну, які чалавек губляе падчас стрэсу, не мае з-за непаўнацэннага харчавання. У выніку ён пакутуе на сур'ёзныя захворванні.

**— Ці можна «ФітаГоР» прымяняць абсалютна здаровым людзям? Як прафілактычны сродак, напрыклад.**

—На жаль, абсалютна здаровых людзей у нас малавата. У прынцыпе яго можа прымяняць любы чалавек. Асабліва важна мець «ФітаГоР» увесну і восенню, калі на нас абрынаюцца полчышчы розных інфекцый і лёгка можна схапіць прастуду. Літаральна два пакецікі сямітраўніка расправяцца з вашымі хваробамі прастуднага характару, не дапусцяць ускладненняў.

**— Паколькі «ФітаГоР» адносіцца да лекаў, значыць, месца яго ў аптэках?**

— Усё правільна. Каб набыць яго, неабходна звярнуцца ў аптэку. Ён адпускаецца без рэцэпта ўрача. Апошнім часам сямітраўнікам зацікавілася фірма «Натурпрадукт» і праз сваю шырокую сетку аптэк і кіёскаў прапануе яго людзям.

**— Уладзімір Міхайлавіч, парайце, калі ласка, як ужываць Ваша дзецішча?**

— Сямітраўнік прадаецца ва ўпакоўцы, у якой дзесяць пакецікаў. На ёй даецца падрабязная рэкамендацыя медыкаў. Зазначу толькі, што «ФітаГоР» нельга прымяняць пасля ежы. Нельга яго падсалоджваць. Салодкі настой губляе лекавыя ўласцівасці. Спіртавы настой таксама не дае ніякага эфекту.

**— І напрыканцы, Уладзімір Міхайлавіч, пра перспектывы новага лекавага сродку.**

— Цяпер наша фірма працуе над тым, каб у бліжэйшай будучыні наладзіць выпуск раставальнага «ФітаГоРу». Як паказалі доследы, гэта паляпшае яго якасць.

Ну і блакітная мара – каб «ФітаГоР» быў у кожнай сям'і.

*Гутарыў*
*А. ЛАЎРАНЮК.*

● *ДЕЛА МОЛОДЕЖНЫЕ*

## Академия кует кадры БПСМ?

Барановичский район навестили слушатели курсов повышения квалификации Академии управления при Президенте РБ — первые секретари районных комитетов Белорусского патриотического союза молодежи. Им показали жемчужины воспитания и учебы детей "в духе"... — Нижнечерниховскую базовую школу, отдых молодежи в Крошинском сельском Доме культуры, работу первичной организации БПСМ колхоза "Победа", Новомышского СПТУ-156 и др.

Слушатели академии узрели лучшие образцы постановки работы с молодежью в свете программы Союза. Худшие и "не с тем уклоном" остались за кадром. Кто сказал, что времена воспитания "в духе" прошли?

## Только двое-безработные

Гороно, центр занятости уделили внимание выпускникам 11 классов Барановичей 1997 года. Стало известно, что 90 трудоустроились самостоятельно, 48 — через центр занятости, 70 учатся на различных курсах, 11 ушли в армию, 953 поступили в техникумы и вузы. Только двое ребят еще не определились. Не долго ли размышляют, отвергая помощь гороно и центра занятости? Как бы от безделья не свернули на кривую дорожку?

## "Наши сердца – больным детям"

450 мягких игрушек изготовил подростковый центр Барановичского межшкольного учебно-производственного комбината № 1 и передал их в фонд акции "Наши сердца — больным детям".

...У традиционной Новогодней елки игрушки получили дети-инвалиды.

*П. НАГНИБЕДА.*

# ПОЖИВЁМ — УВИДИМ с 19 по 25 января

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 19

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Резонанс.
8.50 Телебарометр.
9.05 "Сегодня с вами..."
9.40 Мультфильм.
9.55 Золотые ключи. Телефестиваль.
10.35, 18.20 "Индаба".
11.00 Здоровье.
11.25 Мультфильм.
11.35 Бездельник.
12.05 Теленавигатор.
12.25 "А музыка звучит..." Концерт.
13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
13.15 "Броненосец "Потемкин". Худ. фильм.
14.40 Параграф.
15.15 Видеокурс немецкого языка.
15.35 ТВ— школе. История Беларуси. 8-й класс. Восстание 1863 года в Беларуси.
16.05 Док. фильм.
16.20 Мультфильм.
16.30 Регион.
17.05 Док. фильм.
17.30 Гости в дом.
18.50 Слово митрополита Филарета на праздник Крещения Господнего.
19.00 "Сегодня с вами".
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Смеяться — не грех".
21.15 "Свинарка и пастух". Худ. фильм.
22.45 Третий тайм.
23.15 Белорусский дом.
23.45 Криминальная хроника.
0.20 Сериал "Четверка нежданных нахлебников".

### ОРТ

14.00, 17.00, 22.40 Новости.
14.20 Мультсериал "Насекомусы".
14.45 Марафон-15.
15.05 Звездный час.
15.40 "Похищенный". Приключенческий сериал.
16.10 ...До 16 и старше.
16.30 Вокруг света.
17.20 Сериал "Роковое наследство".
18.05 Час пик.
18.30 "Угадай мелодию".
19.00 Программа "Человек в маске".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 "Иван Грозный" Сергея Эйзенштейна. 1-я серия.
22.55 "Иван Грозный". 2-я серия.

### Канал "Россия"

7.05 История одного события.
17.20 Баскетбол. "Матч звезд".
19.00, 22.30 Вести.
19.30 Подробности.
19.45 "Санта-Барбара".
20.50 Довгань-шоу.
21.20 "Графиня де Монсоро". Телесериал.
22.55 Национальный интерес.
23.25 Дежурная часть.
23.40 Авто-шоу.

## ВТОРНИК, 20

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45 Новости.
8.15, 19.00 "Сегодня с вами..."
8.50 Музыкальный антракт.
9.05 ТВ — школе. История Беларуси. 8-й класс.
9.35 Сельчане.
10.05 Четвертое измерение.
10.35, 18.20 "Индаба".
11.00 "Все мы родом из детства".
12.15 Авто-парк.
12.25 Акколада.
13.15 Спектакль.
14.25 Док. фильм.
14.40 "Макаенка, 9".
15.15 ТВ — школе. Белорусская литература. 10-й класс.
15.55 Все про все.
16.20 Мультфильм.
16.30 Уроки Н. Новожиловой.
17.00 Спектр.
17.25 Многоголосие.
18.55 Белорусский хит-парад.
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Смеяться — не грех".
21.15 "Двое на острове слез." Худ. фильм.
22.55 Международные спортивные новости.
23.15 Музыкальный салон с Элеонорой Езерской..
24.00 "Четверка нежданных нахлебников". Сериал.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство". Сериал.
9.40 Смехопанорама.
10.15 Домашняя библиотека.
10.30, 18.30 "Угадай мелодию".
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал.
14.55 Счастливый случай.
15.40 "Похищенный". Сериал.
16.10 ... До 16 и старше.
16.30 Вокруг света.
18.05 Час пик.
19.00 "Тема".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 "Стряпуха". Кинокомедия.
22.10 "Женские истории".
22.40 В. Винокур, Л. Вайкуле, В. Меладзе в концертной программе Л. Лешенко "В кругу друзей".

### Канал "Россия"

6.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00, 23.25 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 Мир здоровья.
7.25 На заметку.
7.30 Деньги.
7.45 Графоман.
7.55 Православный календарь.
8.00 Диалоги о животных.
9.05, 19.45 "Санта-Барбара".
13.35 "Призраки зеленой комнаты". Мелодрама.
15.00 Мультфильм.
15.20 Торговый дом "Ле Монти".
15.30 "Маленький бродяга". Сериал.
16.30 Любовь с первого взгляда.
17.05 История одного события.
17.15 "Отдушина". Худ. фильм.
19.30 Подробности.
20.50 "Собачий мир".
21.20 "Графиня де Монсоро".
22.55 Национальный интерес.
23.40 Горячая десятка.

## СРЕДА, 21

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
8.15, 19.00 "Сегодня с вами..."
8.50 Поэтическая строка.
9.05 ТВ — школе. Белорусская литература. 10-й класс.
9.45 "Я рисую".
10.00 Музыка без границ.
10.35, 18.20 "Индаба".
11.05 Туробъектив.
11.25 Видимо-невидимо.
12.25 Концерт.
12.50 Мультфильм.
13.10 Спектакль "Барбара Радзивилл". Часть вторая.
14.05 Земляки.
15.15 Видеокурс немецкого языка.
15.35 "5x5".
16.05 "Навстречу".
16.40 Пограничье.
17.00 Монолог. Писатель Микола Аврамчик.
17.30 Судьба моя и надежда.
18.55 Белорусский хит-парад.
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Смеяться — не грех".
21.15 "Мещерские". Худ. фильм.
22.45 Сделано в Беларуси.
23.00 Темная комната.
23.25 Королевская охота.
0.20 "Четверка нежданных нахлебников".

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.00 "Тема".
9.45 В мире животных.
10.25 Джентльмен-шоу.
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал.
14.45 Классная компания.
15.15 Зов джунглей.
15.40 "Похищенный". Сериал.
16.10 ..До 16 и старше.
16.30 Вокруг света.
18.05 Час пик.
18.30 "Золотая лихорадка".
19.10 Человек и закон.
19.45 "Спокойной ночи,малыши!".
20.00 Время.
20.40 "Операция "Тушенка". Комедия.
22.45 Сергей Эйзенштейн. Заклинание тиранов.

### Канал "Россия"

6.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00, 23.25 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 Медицинское обозрение.
7.25 На заметку.
7.30 Деньги.
7.45 Графоман.
7.55 Православный календарь.
8.00 Городок.
8.30 "Собачий мир".
9.05, 19.45 "Санта-Барбара".
13.35 "Я больше не верю в любовь". Худ. фильм.
15.00 Мультфильм.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Кроссворд.
17.05 История одного события.
17.20 Мелодрама "На тебя уповаю".
19.30 Подробности.
20.50 Сам себе режиссер.
21.20 "Графиня де Монсоро". Телесериал.
22.55 Национальный интерес.
23.40 Живая коллекция.

## ЧЕТВЕРГ, 22

### БТ

16.00 ТВ — школе. Беларуская литература. 9-й класс.
16.25 Родное слово.
17.00 Телеочерк.
17.25 Концертный сезон.
18.00, 23.40 Новости.
18.20 "Индаба".
18.55 Белорусский хит-парад.
19.00 "Сегодня с вами..."
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Смеяться — не грех".
21.15 Закрытие XII съезда Союза композиторов Беларуси.
22.20 Крок.
22.50 История любви.
23.10 Акколада.
23.55 Сериал "Четверка нежданных нахлебников".

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.00 Человек и закон.
9.35 Пока все дома.
10.20 Домашняя библиотека.
10.25, 18.30 Телеигра "Эти забавные животные".
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал "Невероятные приключения Джонни Квеста".
14.45 Классная компания.
15.10 Лего-го!
15.40 "Похищенный". Сериал.
16.10 ...До 16 и старше.
16.30 Вокруг света.
18.05 Час пик.
19.00 "Чтобы помнили..." В. Высоцкий.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 "Плохой хороший человек". Худ. фильм.
22.45 Сериал "Каскадеры. Мир трюков".

### Канал "Россия"

6.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00, 23.25 Дежурная часть.
7.15 Товары—почтой.
7.20 "Стронг" представляет.
7.25 На заметку.
7.30 Деньги.
7.45 Графоман.
7.55 Православный календарь.
8.00 Вовремя.
8.30 Сам себе режиссер.
9.05, 19.45 "Санта-Барбара".
13.35 "Клан". Политический детектив.
15.00 Мультфильм.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Любовь с первого взгляда.
17.00 "Александр Невский". Худ. фильм.
19.30 Подробности.
20.50 "Собачий мир". Телесериал.
21.20 "Графиня де Монсоро". Телесериал.
22.55 Национальный интерес.
23.40 Подиум д'АРТ.
0.10 Лучшие игры НБА.

## ПЯТНИЦА, 23

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.30 Новости.
8.15, 19.00 "Сегодня с вами..."
8.50 "Музыкальный антракт".
9.00 ТВ — школе. Беларуская литература. 9-й класс.
9.35 Международный кинофестиваль "Созвездие-97".
10.00 Бархатный сезон.
10.35, 18.20 "Индаба".
11.25 "Зорная ростань".
12.00 Док. фильм.
12.25 Концерт.
13.15 "Не сошлись характерами". Худ. фильм.
14.35 Судьба моя и надежда.
15.15 Видеокурс немецкого языка.
15.35 Переход.
16.05 Мультфильм.
16.25 Белорусский меридиан.
17.00 Уроки Н. Новожиловой.
17.35 Док. фильм.
18.55 Белорусский хит-парад.
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Смеяться — не грех".
21.15 "Обратный ход". Худ. фильм.
23.20 Бездельник.
23.50 Авто-парк.
24.00 Риск-версия.
0.45 "Четверка нежданных нахлебников".

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.25 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.05 Клуб путешественников.
9.55 Смак.
10.15 Домашняя библиотека.
10.25 Играй, гармонь любимая!
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Фильм-сказка "Король Полярный медведь".
15.55 Улица Сезам.
16.25 "50x50".
18.15 Здоровье.
18.45 Поле чудес.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Коломбо в детективе "Этюд в черных тонах".
22.35 Взгляд.
23.40 Боевик "Настоящая любовь".

### Канал "Россия"

6.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00, 23.25 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 Мир здоровья.
7.25 На заметку.
7.30 Деньги.
7.45 Графоман.
7.55 Православный календарь.
8.00 "Красная книга".
8.30 "Собачий мир". Телесериал.
9.05, 19.45 "Санта-Барбара".
13.35 "Время, отведенное для жизни". Худ. фильм.
15.20 Мультфильм.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Кроссворд.
17.05 История одного события.
17.15 Мультфильм.
17.30 Мелодрама "Очень верная жена".
19.30 Подробности.
20.50 Маски-шоу.
21.20 "Графиня де Монсоро". Телесериал.
22.55 Национальный интерес.
23.40 Турнир "Планета кик-боксинг".

## СУББОТА, 24

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 15.00 Новости.
8.20 "Узник замка Иф". Многосерийный худ. фильм.
9.10 "Я рисую".
9.25 Здоровье.
9.50 Столица.
10.10 Сущность.
10.45 "Все нормально, мама!"
11.15 Око.
11.35 Вершина мира.
12.00 Творческий вечер поэтессы Валентины Аколовой.
13.45 Четвертое измерение.
14.15 Телеспорт.
15.20 Теле-бом.
16.10 Ток- шоу "Это моя работа".
16.40 "Пророков нет в Отечестве своем". Док. фильм.
18.25 "Из достоверных источников".
18.45 "Песню берите с собой". Телефестиваль.
19.40 Колыбельная.
20.00 Панорама.
20.55 "Вертикаль". Худ. фильм.
22.15 Третий тайм.
22.35 Ток-шоу "Карамболь".
23.05 Белорусский хит-парад.
23.20 Телевизионный Дом кино.
23.50 Видимо—невидимо.

### ОРТ

7.00 "Вооружен и очень опасен". Худ. фильм.
8.40 Лотто "Миллион".
8.45 Слово пастыря.
9.00, 14.00, 16.50 Новости.
9.10 Домашняя библиотека.
9.30 Утренняя почта.
10.10 "Каламбур".
10.45 Смак.
11.05 Возвращение Третьяковки.
11.30 Умники и умницы.
12. 20 Рождественский концерт.
14.20 "Триумф".
14.50 Мультфильм.
15.25 В мире животных.
16.05 "Как это было". Дело валютчиков.
17.10 "Чердачок Фруттис".
17.50 Сериал "Спрут-3".
19.10 Джентльмен-шоу.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.55 Триллер "Призрак и тьма".
23.00 Хоккей. Евролига. Полуфинал. "Динамо" (Москва) — "Торпедо" (Ярославль).
0.40 Остросюжетны фильм "Врубай на всю катушку!".

### Канал "Россия"

6.00 Утренний экспресс.
6.50 Мультфильм.
7.00 Утро крестьянина.
7.30 Книжная лавка.
7.45 На дорогах России.
8.00 Поле зрения.
8.25 "Позвоните Кузе!"
8.50 Мультфильм.
9.05 "Мак и Матли".
9.25 Доброе утро, страна!
10.35 У всех на устах.
11.10 "Неуловимые мстители„. Худ. фильм.
12.30 Футбол без границ.
13.00, 19.00 Вести.
13.30 Люди и деньги.
14.00 Федерация.
15.00 "Закон и порядок". Телесериал
16.00 Русский бой.
17.00 Совершенно секретно.
17.55 Моя семья.
19.45 "Без дураков". Худ. фильм.
21.50 "Аншлаг" и К.
22.50 "Интервенция". Худ. фильм.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 25

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 15.00 Новости.
8.20 "Узник замка Иф". Худ. фильм.
9.05 "Вас вызывает Спортландия".
9.55 Туробьектив.
10.20 "Все нормально, мама!".
10.50 "Чудеса света".
11.20 Марсово поле.
11.45 Телек-шоу.
12.00 "Накануне будущего".
12.25 "Женитьба Терешки".
13.00 Сделано в Беларуси.
13.15 Док. фильм.
13.55 Кубок Беларуси по мини-футболу. Финал. 2-й тайм.
14.45 Олимп.
15.20 Сельчане.
15.45 Мистер "Силач-97".
16.35 Зорная ростань.
17.15 "Возьми меня с собой". Худ. фильм.
18.30 Теленавигатор.
18.50 "Земляки".
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Телебарометр.
21.05 Парламентский вестник.
21.30 Стадион.
21.55 "Анна и волки". Худ. фильм.
23.45 Премьера песни.
24.00 "В джазе только девушки".
0.25 Бархатный сезон.

### ОРТ

7.00 Мультфильм.
7.10 "Максимка". Худ. фильм.
8.30 "Дисней-клуб".
8.55 Спортлото.
9.00, 14.00, 23.40 Новости.
9.10 "Непутевые заметки" Дм. Крылова.
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 Служу России.
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Сельский тележурнал.
12.30 Сериал "Подводная одиссея команды Кусто".
13.25 Смехопанорама.
14.20 Клуб путешественников.
15.05 Футбольное обозрение.
15.35, 16.00 "Дисней-клуб".
16.30 Колесо истории.
17.25 О. Газманов, А. Макаревич, Л. Долина, группа "Любэ" в концерте памяти В. Высоцкого.
19.55 Киноафиша.
20.00 Время.
20.35 "Кокон". Комедия.
22.55 Хоккей. Матч за звание чемпиона Евролиги.

### Канал "Россия"

6.00 Утренний экспресс.
6.50 Мультфильм.
7.00 Служу Отечеству!
7.30 "Там-там".
8.25 "Позвоните Кузе!".
8.50 Мультфильм.
9.05 "Мак и Матли".
9.25 Доброе утро, страна!
10.15 Русское лото.
11.00 "Новые приключения неуловимых". Худ. фильм.
12.30 Очевидное-невероятное. Век XXI.
13.00 Вести.
13.30 Пульс.
14.00 Парламентский час.
15.00 "Закон и порядок". Телесериал.
16.00 Диалоги о животных.
17.00 Волшебный мир Диснея.
17.55 Старая квартира. 1964 год. Часть 1-я.
19.00 Зеркало.
20.10 Музыкальный ринг.
21.50 Вовремя.
22.20 Сиреневый туман.
23.05 Программа "Фрак народа".

● КРЫМІНАЛ

# ПРЫГОДЫ Ў КАЛЯДНУЮ НОЧ

У калядную ноч злодзеі адчувалі сябе нібы рыба ў вадзе. Не трэба хавацца, хадзіць па-за вуголлю і ўрэшце баяцца. Закрыў твар нейкай маскай або проста панчохай і пайшоў калядаваць. Такіх калядніаў шмат хадзіла з дома ў дом. І дзяцей, і дарослых. Што ж, традыцыя, мы яе пакуль што не цураемся.

Так вось па вуліцы Чкалава ў Івацэвічах у кватэру Л. Г. Новікавай зайшлі трое дзецюкоў у масках. Папрасілі дазволу пакалядаваць. Пакуль гаспадыня шукала чым аддзячыць гасцей, яны і праспявалі сваю віншавальную песню і чакалі «плату» за свой візіт. Атрымаўшы яе (а гэта былі грошы), яны падаліся далей калядаваць. Праз некаторы час Л. Г. Новікава заглянула ў свой насценны «сейф» і жахнулася: усе паўмільёна рублёў як карова языком злізала. Выйшла на вуліцу, але тых дзецюкоў і след прастыў. Дзеці толькі бегалі з хаты ў хату, чуліся іх вясёлыя галасы. Але ж гаспадыні было не да весялосці.

А другі каляднік (назавём яго Віктарам) замест кватэры трапіў у летнюю кухню жыхаркі райцэнтра С. М. Кулецкай. Адтуль вельмі пахла свежанінай. І нюх Віктара не падвёў. Амаль пуд свініны ён «накалядаваў» у тую ноч. Але назаўтра начнога «калядоўніка» знайшлі. Палову ўкрадзенага мяса вярнулі гаспадыні, а астатняе пайшло ўжо ў справу — на гарэлку і закусь злодзею. Усё ж адказнасць за ўкрадзенае прыйдзецца панесці.

А ў Сярадаве ў калядную ноч здарылася зусім неверагоднае. З фермы вучэбнай гаспадаркі ПТВ-162 збегла парася. Невядома як выбралася з клеткі, відаць, пасварылася з маці-свінаматкай.

І трэба сказаць, што пасля начных ўцёкаў апынулася не за трыдзевяць зямель, у нейкім казачным царстве, а ў хляве Т. А. Матылёвай, свінаркі гэтай жа фермы, якая жыве тут жа, у Сярадаве.

А што ж свінарка, якое тлумачэнне яна дала гэтаму факту?

— Парасё само да мяне прыбегла, — толькі і сказала яна.

А мо і праўда, у калядную ноч і не такія цуды бываюць. Не толькі самалёты, але і сланы лятаюць, як паказваюць па тэлевізару.

Як жа ацаніць паводзіны свінаркі? Думаецца, гэта зробіць неўзабаве народны суд.

Такія вось некаторыя калядныя прыгоды, пра якія мы даведаліся і ўдзельнікаў якіх прыхodзілася і яшчэ прыходзіцца шукаць. Калі не сення, то вельмі хутка злодзеі апынуцца на лаве падсудных. Нікому не мінуць пакарання.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*



● УСПАМІНЫ ДЗЯЦІНСТВА

# НОВЫ ГОД

Новы год. Раніца. Прыемна пахне вымытай падлогай і лесам. Пры сцяне паміж двух вокнаў стаіць кашлатая зялёная ёлачка. На ёй папяровыя ланцужкі стракацяць сваімі колерамі. Сінім, чырвоным, зялёным, адзін аранжавым, блакітным, малінавым — другі. Тоненькай залацістай змейкай уецца саламяны ланцужок. Звісаюць пернікі, прывязаныя нітачкамі да галінак. І нічога, што яны чорныя (белай мукі не знайшлося), яны салодзенькія: маці сыпанула ў цеста жменьку цукру. Я ведаю, бо дала нам пакаштаваць.

А яшчэ вісіць на ёлачцы між зялёных галінак залатая рыбка. Адзіная фабрычная цацка. Рыбка малінавая, у яе вялікія жоўтыя вочкі. Цяпер вось залатая рыбка гойдаецца і паблісквае на ўжо цьмяным бляклым святле газавай лямпы, а праз замерзлыя вокны цэдзіць скупое святло першы дзень далёкага пасляваеннага года. Рыбка прыцягвае да сябе — як мара, будучыня...

*А. ЗАЙКА,*
*настаўнік Запалянскай СШ Івацэвіцкага раёна.*

*Сердечно поздравляем*

*Дорогого мужа, заботливого отца и ласкового дедушку Виктора Владимировича ЖУРОМСКОГО*

*из д. Бусяж Ивацевичского района от всей души поздравляем с 60-летним юбилеем. Желаем крепкого здоровья, долгих лет жизни, успехов во всех делах и всего самого наилучшего.*

*Мы тебе желаем от внучат, детей*
*Счастья и здоровья, радостных вестей.*
*Не беда, что волосы годы серебрят,*
*Если все мы вместе — твой светлеет взгляд.*
*Пусть в твоем окошке ярко горит свет!*
*Мы тебе желаем долгих-долгих лет!*
*Добрая улыбка, радость без конца*
*Пусть не исчезают с твоего лица!*

*Жена, дети, внуки.*

*Самых дорогих и самых любимых ПОДСАДНОГО Василия Николаевича и ПОДСАДНУЮ Наталью Николаевну из д. Бытень Ивацевичского района*

*от всей души поздравляем с днем рождения. Желаем крепкого здоровья, долгих и счастливых дней, большого человеческого счастья.*

*Пусть в жизни ждут вас лишь добрые слова,*
*И сердце никогда от боли не заплачет*
*И пусть кружится голова*
*От счастья, от любви и от удачи.*
*Желаем вам не ведать бед,*
*Не знать ни горя, ни ненастья.*
*И чтоб хватило на сто лет любви,*
*Здоровья, бодрости и счастья.*

*Сыны Андрей и Саша, Раиса, теща, мама.*

● УВАГА — КОНКУРС!



## *Дзевяць плюс адзін для самых маленькіх!*

*Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі. Сярод лістоў з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.*

**1. Знакаміты казачнік Ганс Хрысціян Андэрсэн жыў у:**
а) Даніі;
б) Англіі;
в) Нарвегіі.

**2. Якія берагі мела казачная малочная рака?**
а) мядовыя;
б) кісельныя;
в) макавыя.

**3. Героі папулярнага мультфільма Чып і Дэйл з'яўляюцца:**
а) мышанятамі;
б) хамячкамі;
в) бурундучкамі.

**4. Даўжыня пітона ў папугаях:**
а) 28;
б) 48;
в) 38.

**5. Як звалі мудрую чарапаху ў казцы пра Бураціна?**
а) Фрутэла;
б) Тарціла;
в) Цефтэла.

**6. Стукае, грукае, а нідзе не відаць. Адгадайце, што гэта?**
а) гром;
б) вецер;
в) град.

7. "Я хаджу па белым свеце
І гляджу, як вы жывеце.
Калі трэба — памагу,
Бо я ўсё рабіць магу".

**Гэтую песню, вядомую, напэўна, усім дзецям, спявае:**
а) Дзед Мазай;
б) Дзед Талаш;
в) Дзед-Барадзед.

**8. Дзе знаходзіцца Поле цудаў:**
а) у Краіне дурняў;
б) у Даліне Мумі-Троляў;
в) у Каралеўстве Крывых Люстэркаў.

**9. З чаго пабудаваў свой домік Наф-Наф з казкі пра трох парсючкоў:**
а) з саломы;
б) са снегу;
в) з каменняў.

**Правільныя адказы:** 1а, 2б, 3в, 4в, 5б, 6а, 7в, 8а, 9в.

Дзевяць правільных адказаў — выдатна, 7-8 — вельмі добра, 5-6 — добра, 3-4 — здавальняюча, менш 3-х — у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Як на Беларусі называецца народны тэатр лялек?**

● ЗДАРЭННІ

## Упал или убит?

Водитель автопогрузчика завода "Барановичиремстрой" решил помочь своему другу, рабочему малого предприятия "Райсельккоммунхоз" в ремонте телеантенны на крыше бытового помещения. Он усадил его в ковш погрузчика и поднял на крышу. Ковш опрокинулся, друг упал и разбился насмерть.

Следователи теперь определяют квалификацию случая: упал или погиб человек по вине разгильдяя-водителя?

*(Наш корр.).*

## Гарэлка вінаватая

Недарэчная смерць абарвала жыццё маладога мужчыны з вёскі Боркі Івацэвіцкага раёна. Цёплая кампанія бавіла час за распіццём спіртных напояў, перасварыліся паміж сабой і справа дайшла да бойкі. Ад удару нажа ў сэрца адзін з іх загінуў.

Па падазрэнню ў забойстве затрымана жанчына. Ёй, па яе словах, не спадабаліся заляцанні загінуўшага.

*(Наш кар.).*

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 70 | 80—100 | 60—90 |
| Сала салёнае | 80 | 90 | 75—80 |
| Алей (1 л) | 50—55 | 45—55 | 43—47 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 30 | 30 | 35—40 |
| Малако (3 л) | 15—16 | 20 | 18 |
| Бульба | 5 | 8 | 5—7 |
| Капуста | 15 | 15 | 7 |
| Цыбуля | 15—20 | 20—25 | 20—22 |
| Морква | 8—10 | 10—12 | 8—10 |
| Памідоры | 50 | 55 | 55 |
| Яблыкі | 15—20 | 15—25 | 18 |
| Масла смет. | 80 | 90 | 75 |
| Бананы | 42 | 40 | 43 |
| Апельсіны | 42 | 42 | 45 |
| Тварог | 20 | 25 | 25 |
| Макар. выраб. | 20 | 20 | 20 |
| Цукар | 22 | 22 | 22 |
| Мука | 16,5 | 16—17 | 17—18 |
| Селядцы п.п. | 47 | 43 | 49 |

**ВАЛЮТА НА «ЧОРНЫМ» РЫНКУ**

| | Івацэвічы | | Баранавічы | | Бяроза | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ |
| 1 долар ЗША | 40 | 44 | 41 | 44 | 40 | 42 |
| 1 дойчмарка | 19 | 21 | 20 | 22 | 20 | 22 |
| 1 рубель Расіі | 6 | 9 | 6 | 9 | 6 | 9 |



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 15 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 1470.*
*Заказ 69.*